*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 13 (501)** **28 САКАВІКА 2001 г.**

## З нагоды 500-га нумара "Нашага слова"

24 сакавіка ў Менску ў дольнай зале Чырвонага касцёла адбылася ўрачыстая імпрэза з нагоды выхаду 500-га нумара "Нашага слова". У зале сабраліся актывісты і сябры ТБМ, супрацоўнікі "Нашага слова" на працягу 11 гадоў існавання, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі.

Пасля выканання нацыянальнага гімну "Магутны Божа" адбылося ўганараванне актывістаў і супрацоўнікаў газеты, сяброў рэдкалегіі памятнымі медалямі. ТБШ адзначыла "Наша слова" дыпломам за прынцыповае асвятленне праблем беларускай школы.

Выступілі пісьменнікі, паэты, спевакі і мастацкія калектывы. У зале панавала атмасфера свята беларускага слова, адчувалася рэальнасць сапраўднай супольнасці беларусаў.

Напрыканцы адбылося ўганараванне пераможцаў конкурсу "Ведайце свой горад", які ладзіла ТБМ.



Абвяшчаецца пачатак імпрэзы



У зале ксёндз Уладзіслаў Завальнюк , Анатоль Белы. Янка Брыль, Васіль Зуёнак, Вольга Іпатава, Алег Трусаў і інш.



Прамаўляе Ніл Гілевіч



Вершы чытае Вольга Іпатава



Спявае Пятро Русаў



Старшыня ТБМ Алег Трусаў уручае памятны медаль рэдактару "Нашага слова" Станіславу Суднiку



Уганароўваецца Юля Дзіцэвіч, адна з пераможцаў конкурсу ТБМ "Ведай свой горад"



Васіль Ліньвінка рэпразантуе мастацкі калектыў БДУ "Тутэйшая шляхта"

# 25 сакавіка - Дзень Волі

## Падпісанне "Акта незалежнасці"

24 сакавіка ў Менску адбылося падпісанне "Акта незалежнасці". На падпісанні прысутнічалі лідары асноўных беларускіх палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, прадстаўнікі грамадскасці і нацыянальнай эліты, дыпламаты, у тым ліку і пасол ЗША Майкл Козак. Тэкст Акта быў зацверджаны Усебеларускім з'ездам летам 2000-га года. Падпісаннем Акта выказваецца воля беларускага грамадства, нацыянальнай палітычнай і інтэлектуальнай эліты да незалежнага і годнага існавання Беларускай дзяржавы.

Акт падпісалі сустаршыні Ўсебеларускага з'езду Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Анатоль Грыцкевіч і Радзім Гарэцкі.

## Краіна святкуе 83-я ўгодкі БНР

Па ўсіх буйнейшых гарадах Беларусі прайшлі мерапрыемствы з нагоды 83-х угодкаў БНР. У большасці гарадоў Беларусі былі забаронены мітынгі і дэманстрацыі , таму мерапрыемтвы насілі іншыя формы: канферэнцыі, сходы, вечарыны. У Менску, Горадні, Наваполацку, Баранавічах прайшлі шэсці і мітынгі. У Менску і Горадні мерапрыемствы былі несанкцыяваныя і ішлі ў жорсткім супрацьдзеянні з міліцыяй і АМАПам. У Менску на мітынгу выступілі старшыня БНФ Вінцук Вячорка, а таксама Вячаслаў Сіўчык, Алесь Бяляцкі, Аляксей Кароль, Павел Севярынец. Паводле звестак на момант здачы газеты ў друк у Менску затрымана 13 чалавек, у тым ліку і Вінцук Вячорка, старшыня ГА БНФ "Адраджэньне".

**Гарадзенская і Менская абласныя канферэнцыі ТБМ**

**Гарадзенская абласная канферэнцыя ТБМ імя Ф. Скарыны адбудзецца 1 красавіка 2001 года ў 11 гадзін у Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце па вул. Леніна, 32 на кафедры беларускай мовы.**

**На канферэнцыю выносяцца наступныя пытанні:**

1. **Справаздача старшыні абласной рады.**
2. **Справаздача рэвізійнай камісіі.**
3. **Выбары дэлегатаў на VII з'езд ТБМ.**
4. **Аб падпісцы на газету "Наша слова".**

**1 красавіка 2001 года ў Менску ў сядзібе ТБМ па Румянцав, 13 адбудзецца Менская абласная канферэнцыя ТБМ імя Ф. Скарыны.**

## Звесткі па збору подпісаў за БНУ у студзені - лютым 2001 г.

| №№ п/п | Назва нас. пунк. | Кольк. подпісаў |
|---|---|---|
| 1. | Менск | 309 |
| 2. | Менская вобл. | 212 |
| | у тым ліку: | |
| | Жодзіна | 63 |
| | Мар'іна Горка | 20 |
| | Салігорск | 4 |
| | Мядзель і раён | 85 |
| | Маладзечанскі р-н | 1 |
| | Пухавіцкі р-н | 39 |
| 3. | Віцебск | 209 |
| 4. | Віцебская вобл. | 506 |
| | у тым ліку: | |
| | Паставы | 71 |
| | Полацк | 143 |
| | Наваполацк | 270 |
| | Аршанскі р-н | 1 |
| | Шаркаўшчынскі р-н | 21 |
| 5. | Берасце | 9 |
| 6. | Берасцейская вобл. | 843 |
| | у тым ліку: | |
| | Пінск | 805 |
| | Івацэвічы | 37 |
| | Баранавічы | 1 |
| 7. | Гомель | 13 |
| 8. | Гомельская вобл. | 79 |
| | у тым ліку: | |
| | Мазыр | 28 |
| | Светлагорск | 51 |
| 8. | Магілёў | 186 |
| 9. | Магілёўская вобл. | 369 |
| | у тым ліку: | |
| | Бабруйск і раён | 263 |
| | Асіповічы | 77 |
| | Кіраўскі р-н | 17 |
| | Быхаўскі р-н | 10 |
| | Хоцімск | 2 |
| 10. | Горадня | 11 |
| 11. | Гарадзенская вобл. | 1015 |
| | у тым ліку: | |
| | Слонім | 101 |
| | Ліда | 771 |
| | Дзятлава і раён | 61 |
| | Мастоўскі р-н | 82 |
| | Усяго | 3761 |

**На 1 сакавіка 2001 г. – 41425 подпісаў**

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня



### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Шаўлюга Мікола (Наваполацк) – 500 р.
2. Жарнасек Ірына (Наваполацк) – 500 р.
3. Рымша Алесь (Наваполацк) – 1000 р.
4. Кастрыца Вольга (Наваполацк) – 200 р.
5. Кастрыца Лявон (Наваполацк) – 100 р.
6. Кунцэвіч Уладзімір (Наваполацк)– 300 р.
7. Чарткоў Мікола (Наваполацк) – 600 р.

***Ахвяраванні сяброў кафедры беларускай мовы МДУ імя А.А.Куляшова***

1. Абабурка М. В. – 500 р.
2. Рагаўцоў В. І. – 500 р.
3. Клімуць С. В. – 500 р.
4. Шубадзёрава А. М. – 500 р.
5. Дзянісаў Ул. С. – 500 р.
6. Юхнавец А. М. – 500 р.
7. Кечык С. Я. – 500 р.
8. Аляксейчыкава Н. Дз. – 500 р.
9. Шакура С. Ул. – 500 р.
10. Тарасенка Т. І. – 500 р.
11. Лаўшук Д. А. – 500 р.
12. Клімуць Я. І. – 500 р.
13. Каратняў М. М. – 500 р.
14. Даніленка С. І. – 500 р.
15. Украінка С. С. – 500 р.
16. Макарэвіч А. М. – 500 р.
17. Кульбянкова І. М. – 500 р.
18. Камкоў П. М. – 500 р.

Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статуса дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).



№ 13 (501) 28 САКАВІКА 2001 г. Наша слова

*ПРАЕКТ**

# ДЭКЛАРАЦЫЯ АБ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

***Дэкларацыя аб беларускай мове – гэта супольнае выражэнне волі ўсіх станаў беларускага грамадства, а таксама арганізацый, партый, дзяржаўных і недзяржаўных структураў і кожнага асобнага грамадзяніна да годнага існавання і перспектыўнага развіцця беларускай мовы – найвялікшага нацыянальнага багацця беларускага народа.***

**Мы падпісанты гэтай дэкларацыі: грамадзяне Рэспублікі Беларусь, прадстаўнікі беларускага этнасу і міжнароднай супольнасці, заклапочаныя станам і перспектывамі беларускай мовы,**

## канстатуем, што:

1. Беларуская мова -- тытульная мова беларускага народа.
2. Беларуская мова -- унікальная, самабытная, самастойная, дасканалая і выдатна распрацаваная лінгвістычная фармацыя,
3. Беларуская мова ніколі не была ні часткай, ні адгалінаваннем, ні дыялектам нейкай іншай мовы, яна развівалася беларускім этнасам, унутры беларускага этнасу і паводле запатрабаванняў беларускага этнасу.
4. Беларуская мова – адзіная спадчынная, паўнавартасная і паўнапраўная мова беларускага народа.
5. Паўнавартаснае жыццё беларускага грамадства не можа быць рэалізаваны ў іншай моўнай стыхіі акрамя, як беларускай.
6. Усе асноўныя гістарычныя, палітычныя і культурныя набыткі беларускага народа дасягнуты ў беларускай моўнай стыхіі. У аснове ўсіх дасягненняў творчага і духоўнага жыцця беларускага народа ляжыць беларуская мова.
7. Беларуская мова ўяўляе сабой культурны здабытак усяго чалавецтва і ў павінна быць захавана ў якасці жывой штодзённай мовы беларускага народа, як часткі агульначалавечай супольнасці.
8. Развіццё, удасканаленне і шырокае распаўсюджанне беларускай мовы – абавязак кожнага грамадзяніна Беларусі і кожнага прадстаўніка беларускай дыяспары ўва ўсіх краінах свету.
9. Беларуская мова існуе ў вусным і пісьмовым выглядзе, у старажытна-гістарычнай, літаратурнай і дыялектных формах. Літаратурная беларуская мова існуе ў сучасным і гістарычна-старажытных варыянтах.
10. Слоўны запас беларускай мовы забяспечвае магчымасць высокаякасных перакладаў любой тэматыкі з любой мовы свету. Пісьмовая беларуская мова мае сваю дасканалую граматыку– збор нормаў і правілаў для забеспячэння найбольшай адпаведнасці пісьмовай мовы вуснай. Граматыка беларускай мовы пастаянна развіваецца ў адпаведнасці з запатрабаваннямі і ўмовамі развіцця мовы.
11. Беларуская мова зразумелая прадстаўнікам усіх народаў, што жывуць на Беларусі, яна можа і павінна выконваць функцыі мовы міжнацыянальных зносінаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

## пагаджаемся ў тым, што:

1. Кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь павінен ведаць беларускую мову і карыстацца ёю ў штодзённым жыцці.
2. Кожны беларус за мяжой павінен імкнуцца ведаць беларускую мову і карыстацца ёю ў сям'і і грамадскай дзейнасці на карысць Беларусі.
3. Дзейнасць усіх палітычных партый і грамадскіх арганізацый Рэспублікі Беларусь павінна адбывацца на беларускай мове. Дзейнасць грамадскіх арганізацый нацыянальных супольнасцяў можа адбывацца на нацыянальных або міжнародных мовах.

Дзейнасць усіх творчых саюзаў, калектываў і арганізацый Рэспублікі Беларусь павінна ісці на беларускай мове.

Дзейнасць усіх прыватных і грамадскіх прадпрыемстваў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь павінна весціся на беларускай мове.

4. Усе грамадскія, прыватныя, незалежныя сродкі масавай інфармацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь павінны быць беларускамоўнымі. СМІ нацыянальных супольнасцяў могуць выходзіць на мовах гэтых супольнасцяў.
5. Уся недзяржаўная сістэма адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь павінна быць беларускамоўнай. Выключэнні дапускаюцца для ўстаноў адукацыі нацыянальных супольнасцяў, пры абавязковым вывучэнні там беларускай мовы, як прадмета.

## патрабуем, каб:

1. Беларуская дзяржава, як вышэйшая арганізацыйная структура беларускага народа, усклала на сябе асноўны цяжар абавязкаў па забеспячэнні існавання і развіцця беларускай мовы, як рэальнай дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь, забяспечыла эканамічныя, юрыдычныя і арганізацыйныя ўмовы для выканання беларускай мовай усіх адукацыйных, камунікацыйных, інфармацыйных функцый.
2. Быў прыняты новы Закон аб мовах, які забяспечыць юрыдычныя падставы існавання і развіцця беларускай мовы, як адзінай дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь і створыць юрыдычныя ўмовы пашырэння беларускай мовы ў пазадзяржаўныя сферы і за межы Беларусі.
3. Усе дзяржаўныя ўстановы і структуры працавалі на беларускай мове.
   Уся дзяржаўная сістэма адукацыі функцыявала на беларускай мове.
   Усе дзяржаўныя СМІ працавалі на беларускай мове.
4. Быў створаны Дзяржаўны камітэт (Міністэрства) па справах беларускай мовы.
5. Беларускімі дзяржаўнымі структурамі быў распрацаваны комплекс праграмаў па ўсебаковаму развіццю беларускай мовы.
6. Усе праграмы развіцця беларускай мовы фінансаваліся беларускай дзяржавай.

## зацікаўлены ў тым, каб:

1. Міжнародная супольнасць ставілася да беларускай мовы, як да мовы рэальнага і самастойнага народа і ў адпаведнасці з гэтым будавала свае адносіны з Беларуссю.
2. Міжнародная супольнасць ўсвядоміла неабходнасць дапамогі беларускай мове на этапе яе адраджэння, як мове, якая з'яўляецца агульначалавечым здабыткам і каштоўнасцю.
3. Міжнародная супольнасць разумела, што развіццё Беларусі, як дэмакратычнай і стабільнай краіны, магчыма толькі тады, калі моўнае пытанне тут будзе вырашана на карысць беларускай мовы.
4. Клопат пра адраджэнне і развіццё беларускай мовы стаў элементам палітыкі міжнароднай супольнасці па абароне правоў чалавека.
5. Дзейнасць усіх міжнародных і беларускіх рэлігійных канфесій вялася на тэрыторыі Беларусі на беларускай мове або на міжнародных мовах гэтых канфесій (лаціне, грэцкай, старaславянскай, іўрыце, арабскай, санскрыце і г.д.)

**Усе падпісанты выказваюць сваё імкненне да ажыццяўлення ідэй і прынцыпаў закладзеных у Дэкларацыі:**

** Гэты праект "Дэкларацыі аб беларускай мове" зацверджаны 24 сакавіка 2001 года Рабочай групай па выпрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў 21-м стагоддзі для друку ў газеце ТБМ "Наша слова" і для ўсебаковага абмеркавання ўсімі грамадзянамі Беларусі і беларусамі замежжа. Прапановы па зменах, дадатках, заўвагі і г. д. трэба прысылаць у сядзібу ТБМ па адрасу: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13. Пасля ўліку паступіўшых прапановаў дапрацаваны Праект будзе вынесены на зацверджанне VII - м з'ездам ТБМ імя Францішка Скарыны 20 траўня 2001 года і прапанаваны для падпісання як мага больш шырокай беларускай грамадскасці.*

*На рабочай групе быў зацверджаны для друку ў "Нашым слове" і праект "Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў 21-м стагоддзі", прапанаваны групай пад агульным кіраўніцтвам Сяргея Запрудскага. Гэты праект будзе надрукаваны ў наступных нумарах "Нашага слова".*

# Справаздача

## Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны аб рабоце за 2000 год

За пройдзены год змянялася структура арганізацыі. Перастала, у прыватнасці, дзейнічаць суполка ў абласной газеце "Гродзенская праўда", кіраўніцтва якой непрыхільна паставілася да збору складак сяброў ТБМ. З'явілася новая суполка – у Гарадзенскім палітэхнічным каледжы, якая актыўна разгортвае работу. Найбольш дзейна працуюць суполкі ў арганізацыі "Гроднаэнерга" і Гарадзенскім універсітэце. Аслабла ў горадзе праца з бацькамі школьнікаў, бо беларускія першыя класы ўжо не ствараюцца. Збіраліся подпісы за адкрыццё Нацыянальнага Беларускага Універсітэта. Вялася работа па арганізацыі падпіскі на газету "Наша слова". У траўні 2000-га года гарадская арганізацыя правяла санкцыянаваны пікет на тэму абароны беларускай мовы, яе дзяржаўных правоў. Сумесна з моладзевым клубам "Паходня", краязнаўчым таварыствам адзначылі юбілейныя даты Ф. Багушэвіча, К. Чорнага, М. Забэйды-Суміцкага, Я. Карскага, гарадзенскага краязнаўца А. Цыхуна, выязджалі на магілу Віктара Каліноўскага ў Свіслачы.

Рада Гарадзенскай гарадской арганізацыі трымала сувязі з многімі партыямі і грамадскімі аб'яднаннямі дэмакратычнага кірунку, у прыватнасці, увайшла ў "Гарадзенскую ініцыятыву", якая лучыць усе апазіцыйныя грамадскія сілы Гарадзеншчыны.

Збіраліся гадавыя складкі сяброў арганізацыі. Двойчы ў 2000-ым годзе пералічваліся сродкі (чвэрць агульнай сумы) з рахунку Гарадзенскай гарадской рады на разліковы рахунак Рэспубліканскай рады ТБМ.

***Старшыня Гарадзенскай гарадской рады ТБМ імя Ф.Скарыны Пяткевіч А.М.***

# *Улады Мазыра пільна сочаць за дзейнасцю ТБМ*

*Нядаўна ўладныя структуры Мазыра прапанавалі кіраўніку Мазырскай гарадской арганізацыі ТБМ сп. Людміле Піскун напісаць справаздачу аб дзейнасці вышэйзгаданай структуры ТБМ, што тая і зрабіла. Прапануем сябрам ТБМ азнаёміцца з гэтым тэкстам.*

*Пры гэтым мусім паведаміць, што ў Мазыры няма ніводнага першага беларускамоўнага класа. Можа таму і сочаць так пільна мазырскія ўлады за нашай дзейнасцю, бо, глядзіш, і беларускамоўная адукацыя ў Мазыры аднавіцца, а што тады рабіць? Можа, давядзецца і самім вывучаць дзяржаўную мову тытульнай нацыі?*

***Алег Трусаў, старшыня ТБМ.***

**Намесніку старшыні гарадскога выканаўчага камітэта Л. С. Абрамавай**

**Кіраўніка Мазырскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Л.А.Піскун**

# Справаздача

**аб дзейнасці Мазырскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны**

... 1. Наша арганізацыя не мае сваіх сродкаў.
2. На цэнтральны рахунак ТБМ мы не робім адлічэнні, паколькі не маем фінансавых даходаў.
3. У 2000 годзе, як і ў папярэднія гады мы не займаліся аздараўленнем дзяцей і гуманітарнай дапамогай, пра што Вы просіце сказаць у справаздачы, паколькі наша рэгіянальная арганізацыя не мае ні сваіх штатных супрацоўнікаў для выканання такой дзейнасці, ні фінансавых сродкаў.
4. У 2000 годзе сябры ТБМ збіраліся на пасяджэнне 1 раз, вызначыўшы кірункі работы па падпісцы на беларускамоўныя газеты, у тым ліку на газету "Наша слова", набыцці беларукамоўных кніг беларускіх і замежных аўтараў, падручнікаў.
5. Сябра ТБМ імя Ф.Скарыны прадпрымальнік нашага горада спд. Аляксандр Пархоменка ад сваіх фінансавых даходаў пералічыў грошы на падпіску газеты "Наша слова" (для ўсіх школ г. Мазыра і г. Калінкавічы); аформіў беларускамоўны клас у агульнаадукацыйнай школе №14; набыў беларускамоўныя кніжкі; закупіў для карыстання студэнтамі беларускамоўныя паэтычныя зборнікі, слоўнікі.
6. На імя кіраўніка ТБМ Мазырскай арганізацыі паступіў ліст ад сп. А. Скрэчкі з просьбай паспрыяць стварэнню хаця б аднаго беларускамоўнага першага класа, каб і яго ўнук Барабанаў змог там вучыцца. У 2000 г. адмовілі Баранавай Алене ўзяць яе шасцігадовую дачку на беларускамоўнае школьніцтва.
7. Паколькі ёсць яшчэ адна просьба жыхара нашага горада Мейлаха Яўгена, які таксама хоча адправіць сваю дачку ў беларускамоўны клас, гэта становіцца праблемай, якую можна вырашыць на ўзроўні мясцовых улад, прадставіўшы магчымасць праз раённую газету зрабіць аб'яву наконт жадання бацькоў вучыць сваіх дзяцей у беларускамоўных класах. У гэтым выпадку высветліцца перспектыва фармавання беларускамоўнага класа.
8. Асобныя сябры ТБМ нашай арганізацыі рыхтуюць і выдаюць метадычныя распрацоўкі і вучэбна-метадычныя дапаможнікі для студэнтаў, вучняў і настаўнікаў.
9. Намеснік старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны Мазырскай гарадской арганізацыі Васіль Андрыеўскі падрыхтаваў да выдання, як складальнік, паэтычны зборнік пра наш старажытны слаўны Мазыр. У зборнік увайшлі паэтычныя творы класікаў беларускай літаратуры, сяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі, аматараў паэтычнага слова. Сродкаў на выданне такіх кніжак ТБМ імя Ф.Скарыны не мае.

***Старшыня Мазырскай гарадской арганізацыі імя Францішка Скарыны Піскун Людміла Аляксееўна.***





# Падзелы Беларусі

**(да 80-годдзя падпісання Рыжскай мірнай дамовы 1921 года)**

25 сакавіка 1918 года ў Менску была абвешчана незалежнасць Беларусі. У склад Беларускай Народнай Рэспублікі, паводле 3-й Устаўной граматы Рады БНР, увахо-дзілі тэрыторыі Магілёўшчыны, беларускія часткі Меншчыны, Гарадзеншчыны (з Горадняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных частак губерняў, заселеных беларусамі. Аднак ва ўмовах нямецкай акупацыі амаль усёй тэрыторыі Беларусі ў 1918 г. заваяваць незалежнасць краіны не ўдалося. Падзел Беларусі паміж Нямеччынай і савецкай Расіяй быў замацаваны Берасцейскай мірнай дамовай а з 3 сакавіка 1918 г. Савецкая Расія адмовілася ад Вільні, Горадні, Ваўкавыска, Ліды, Беластока, аддаўшы гэтыя тэрыторыі ў распараджэнне Нямеччыны.

Аднак калі ў Нямеччыне адбылася рэвалюцыя ў лістападзе 1918 г., кіраўнік партыі бальшавікоў і савецкага ўрада Ул. Ленін-Ульянаў правёў пастанову УЦВК (ВЦИК) аб ануляванні Берасцейскай дамовы. Такім спосабам бальшавікі аднавілі расейскую юрысдыкцыю над аддадзенымі Нямеччыне тэрыторыямі. Расейскі савецкі ўрад не прызнаў Беларускай Народнай Рэспублікі і па-ранейшаму ўважаў гэтыя землі, як і ўсю Беларусь, за свае.

Утварэнне БССР 1 студзеня 1919 г. было вымушаным крокам. З аднаго боку, з 25 сакавіка 1918 г. існавала Беларуская Народная Рэспубліка, з другога – беларусы-камуністы, што знаходзіліся на тэрыторыі Расеі, патрабавалі стварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі накшталт іншых нацыянальных рэспублік. І з'езд кампартыі (бальшавікоў) Беларусі, на якім было прынята рашэнне абвесціць БССР, вызначыў тэрыторыю новастворанай савецкай рэспублікі ў межах Менскай і Гарадзенскай губерняў, большай часткі Віцебскай (без трох латгальскіх паветаў), Смаленскай губерні (без чатырох усходніх паветаў), частку Нова-Аляксандраўскага павету Ковенскай губерні, а таксама Віленскі, частку Свянцянскага і Ашмянскага паветаў Віленскай губерні і чатыры паветы Чарнігаўскай. Суражскі, Мглінскі, Старадубскі і Навазыбкоўскі.

Гэтая савецкая рэспубліка праіснавала ў сваіх вялікіх межах толькі два тыдні. Паводле пастановы ЦК РКП(б) ад 16 студзеня 1919 г. на чале з Ул. Леніным з яе складу на карысць РСФСР былі выключаны тэрыторыі Смаленскай, Віцебскай і Магілёўскай губерняў, а засталіся толькі дзве – Менская і Гарадзенская. А ўжо 28 лютага 1919 г. па прапанове з Масквы цэнтральная выканаўчыя камітэты Літоўскай ССР (якая займала ўсходнюю частку Віленшчыны) і Беларускай ССР утварылі новую марыянеткавую дзяржаву – Літоўска-Беларускую ССР (Літбел) са сталіцай у Вільні.

Ужо ўлетку 1919 года тэрыторыя Літбел была занятая польскімі войскамі падчас савецка-польскай вайны. І зноў па загаду з Масквы Літоўска-Беларуская ССР была скасаваная без якога-небудзь закана-даўчага акту. Урад РСФСР ад гэтага часу лічыў тэрыторыю Беларусі расейскай. Пра гэта сведчаць шматлікія штампы і пячаткі рэвалюцыйных камітэтаў (часовых орга-наў савецкай улады на захопленых Чырво-най арміяй тэрыторыях), створаных загадзя ў 1920 г. пры штабе Заходняга фронту у Смаленску, як, напрыклад, "Борисовский ревком Минской губернии РСФСР" ці "Новогрудский ревком Минской губернии РСФСР".

А покольні ўрад Леніна лічыў тэрыто-рыю Беларусі расейскай (пра БССР ужо забыліся), то падчас мірных перамоваў з урадам літоўскай рэспублікі фактычна гандляваў беларускай тэрыторыяй. Каб перацягнуць Літву і яе армію з дзвюх дывізій на свой бок дзеля скіраваць яе супраць Польшчы, урад РСФСР 12 ліпеня 1920 г. падпісаў у Маскве мірную дамову з Літвой, аддаючы ёй значную частку беларускіх земляў. Так, у 2-м артыкуле мірнай дамовы вызначалася дзяржаўная мяжа паміж Расіяй і Літвой" , што ішла на поўдзень ад Аўгу-стова, у 30 кіламетрах на поўдзень ад Горадні (якая перадавалася Літве), потым Нёманам да Дзяляцічаў (на поўнач ад Навагрудка і Любчы), потым на Валожын, які разам з Маладэчнам заставаўся на расейскім баку, і далей на поўнач. Вілейка, Новы Мядзель, Шаркаўшчына і Друя заставаліся на расейскім баку.

Пасля наступу Чырвонай арміі на Заходнім фронце ў ліпені 1920 г. Беларусь была зноў занятая савецкімі войскамі. У жніўні 1920 г. у Менску пачаліся мірныя перамовы паміж савецкай расейска-украін-скай і польскай дэлегацыямі аб спыненні ваенных дзеянняў і падпісання мірнага дагавору. у гэты час войскі Чырвонай арміі былі разбіты пад Варшавай і Львовам і пачалі адступаць на ўсход. Але савецкая дэлегацыя, нягледзячы на гэта, патраба-вала, каб усе тэрыторыі Украіны і Беларусі былі перададзены савецкаму боку. 2 верасня 1920 г. перамовы былі спыненыя. Польскія войскі працягвалі наступ. Хоць з 1 ліпеня 1920 г. была зноў утворана Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь, яе прадстаўнікі ў перамовах не ўдзельнічалі. Ды і новая БССР была ўтворана толькі на тэрыторыі 18 паветаў – Менскай і Гарадзенскай губерняў.

У пачатку кастрычніка 1920 г. польскія войскі падыходзілі ўжо да Маладэчна, Койданава, Слуцка, набліжаліся да Менска. Крыху раней, 21 верасня 1920 г. у сталіцы Латвіі Рызе мірныя перамовы аднавіліся, але зноў без прадстаўнікоў савецкай Беларусі. Старшынём савецкай расейска-украінскай дэлегацыі быў А. Ёфа, сябрамі дэлегацыі – С. Кіраў, Дз. Мануільскі, Л. Абаленскі. Старшыня ваенна-рэвалюцыйнага камітэту БССР А. Чарвякоў (тагачасны фармальны галава беларускай савецкай дзяржавы) прыехаў у Рыгу, але А. Ёфа пасля кансультацый з савецкім расейскім урадам Леніна нават не дапусціў яго да перамоваў. А. Чарвякову было дазволена быць толькі экспертам савецкай дэлегацыі.

Польская дэлегацыя прапанавала савецкай вывесці польскія і савецкія войскі з тэрыторыі Беларусі (уключаючы Смаленшчыну) і правесці там плебісцыт (усенароднае галасаванне) для самавызначэння Беларусі, аднак савецкая дэлегацыя ад гэтай прапановы адмовілася. Расея не хацела страціць выгадны плацдарм. Пры гэтым лёс Беларусі вырашаўся нават без удзелу мясцовых бальшавікоў.

12 кастрычніка 1920 г. у Рызе была падпісана "Дамова аб перамір'і і прэлімінарных *(папярэдніх – А.Г.)* умовах міру паміж РСФСР і УССР, з аднаго боку, і Польшчай – з другога". Перад яго падпісаннем савецкі ўрад лічыў, што можна саступіць Польшчы ўсю тэрыторыю тагачаснай БССР. Ёфа атрымаў дырэктыву ад ЦК РКП(б) – згадзіцца на такія ўмовы за кошт уступак на карысць савецкага боку на Украіне. Да таго трэба было хутчэй падпісаць мір, каб да пачатку зімы нанесці паразу войскам белага генерала П. Урангеля ў Крыме і скончыць грамадзянскую вайну.

А. Ёфа наўпрост заявіў А. Чарвякову, што з Польшчай заключае мір Расея, а не Беларусь. Чарвякоў змаўчаў. Так Беларуская ССР была прынесена ў ахвяру і магла ўжо зусім не існаваць.

Аднак польская дэлегацыя нечакана адмовілася ад такога "падарунка". Галава польскай дэлегацыі Ян Домбскі і ўплывовы палітык і сябра дэлегацыі Станіслаў Грабскі лічылі, што далучэнне да Польшчы тэрыторыі тагачаснай БССР з мяжой за Бярэзінай будзе для іх дзяржавы небяспечным: зашмат у ёй будзе беларускага насельніцтва і гэта створыць потым унутрыпалітычны крызіс, бо беларусы будуць змагацца за сваю незалежнасць. Такім чынам хоць і маленькая, Беларуская ССР засталася.

Паводле папярэдняй мірнай дамовы Польшча прызнавала Беларускую ССР і Украінскую ССР. Дзяржаўная мяжа Беларускай ССР (як і Украінскай) была ўстаноўлена па той лініі, якая фактычна існавала як савецкая граніца да 1939 года. Савецкая Расея афіцыйна адмовілася на карысць Польшчы ад Заходняй Беларусі. Урад БССР, дарэчы, і афіцыйна, і неафіцыйна не пратэставаў супраць гэтага, чым садзейнічаў падзелу сваёй краіны.

Янка Купала крыху раней пісаў пра такі падзел тэрыторыі Беларусі паміж суседзямі ў вершы "Новы год":

*Ідзеш у край, які бязбожна*
*Жыўцом парэзалі на часьці,*
*А брат проць брата стаў варожа*
*І памагае край раскрасці.*

У складзе маленькай БССР засталіся толькі шэсць (і то не цалкам) паветаў былой Менскай губерні (Менск, Слуцк, Барысаў, Ігумен (цяпер Чэрвень), Мазыр, Бабруйск). Якуб Колас з горкай іроніяй заўважыў: ***"Далі шэсць паветаў. Дзякуй і за гэта!".***

Перамовы ў Рызе працягваліся ажно да сакавіка 1921 г. Урэшце 18 сакавіка 1921 г. была падпісана канчатковая мірная дамова паміж дэлегацыямі ўрадаў РСФСР і УССР і ўраду Польшчы. Пад тэкстам дамовы знаходзяцца подпісы пяці сяброў савецкай расейска-ўкраінскай дэлегацыі – А. Ёфы, Я. Ганецкага, Э. Квірынга, Ю. Кацюбінскага і Л. Абаленскага. Зноў дэлегацыя БССР у перамовах не ўдзельнічала, зноў лёс Беларусі вырашаўся без уліку яе прадстаўнікоў. Праўда, у тэксце дамовы гаварылася, што ўрад РСФСР упаўнаважыў дэлегацыю падпісаць дамову за сябе і за ўрад БССР.

Да таго А. Ёфа і савецкая дэлегацыя, упаўнаважаная на гэты ЦК РКП(б) і ўрадам РСФСР, перадавалі Польшчы дадаткова да дамовы 12 кастрычніка 1920 г. тэрыторыі Беларусі: паміж рэкамі Лань і Случ на поўдзень ад Старобіна, а таксама Радашковічы.

Такім чынам, захаваўся падзел тэрыторыі Беларусі на дзве часткі. Расея захавала стратэгічную прастору, якая па-ранейшаму прыкрывала кірунак на Маскву. Для Польшчы Заходняя Беларусь сталася часткаю прыфрантавой (з бальшавізмам) зоны, часткай "санітарнага кардону".

Такая сітуацыя адноснай раўнавагі існавала каля 20 гадоў, да пачатку другой сусветнай вайны, а дакладней да моманту, калі паміж Сталіным і Гітлерам было дасягнута пагадненне, якое было рэалізавана падпісаннем пакту 23 жніўня 1939 г. ("пакт Молатава-Рыбентропа") з яго сакрэтным пратаколам аб новых тэрытарыяльных падзелах ва Усходняй Еўропе, у тым ліку далучэннем Заходняй Беларусі да СССР.

***Анатоль Грыцкевіч, доктар гістарычных навук.***

## Паважаная рэдакцыя "Нашага слова"

*Дасылаю Вам верш Юльяна Сергіевіча, прысвечаны дню 25 сакавіка. Ён быў змешчаны ў брашуры, друкаванай лацінкай, прысвечанай, калі не памыляюся, 25-м угодкам БНР. Вельмі прашу надрукаваць яго ў "Нашым слове", бо не ведаю, які ён па мастацкіх якасцях, але па змесцу ён і цяпер не менш актуальны, чым тады, калі ён быў напісаны.*

*Перапісваў я гэты верш недзе ў пяцідзесятыя гады. Ужо тады арыгінал быў моцна пашкоджаны, а цяпер ён зусім рассыпаўся, але каб засведчыць яго "паходжанне" я далучаю копію фрагмента арыгінала, а дакладней яго пачатак.*

***З глыбокай пашанай Тарасевіч Г. Р., г. Горадня.***

**Ю. Сергіевіч**

## К дню 25 Сакавіка

**(G dniu 25 Sakavika)**

Сягоння распалім святло ўспамінаў
Пайшоўшым у неварач розных часінаў,
Як многа падзеяў каліс галаслівых
Развеяла рэха абшараў драмлівых,
І толькі яснеючай славы сляды
Не змогуць зацерці вякамі гады.

Каліс ў хвалях звінячых прадвесня
Імкненне, як быццам прызыўная песня,
Сабрала пад кліч змагароў за свабоду
Абвесціць грамадна днём гэтым народу
Ад роднай краіны свой першы прывет,
Што грымнуў магутна *(свабодна)*
– "няхай будзе свет"!

З усёй Беларусі вялікае веча
За праўду ў жыцці барацьбой чалавечай
Нарэшце пісала агністае імя,
Якое тварыла цярпеўшай краіне
У досвітках лепшага заўтра зару,
Як лозунг магутны: "Жыве Беларусь!"

Народ перажыўшы ўсе гвалты прыгонаў
І царска-жандармскіх рэжымаў-законаў,
Аддаўшы пад бой і пажары краіну,
Народ у пагібелі той не загінуў,
Ён меў яшчэ сілу паўстаць з небыцця
І абвесціць на свет свае права жыцця.

Панурыя хмары варожых нам сілаў
Аднак вартавалі курганаў-магілаў,
Адкуль спадзяваліся з мёртвых устанне
Каб гвалтаў сваіх даказаць выкананне...
Іржаваю сталлю звінелі ізноў
Праклянцце і ганьба чужых кайданоў...

За тым скрыжаваннем вялікай дарогі
Ізноў напаткаліся ссылкі, вастрогі,
Што мелі згасіць нашы іскры, надзеі
Ды толькі не можна згасіць той ідэі,
Якая каліс гэтым памятным днём
Успыхнула ў нас незгасімым агнём.

Якая парой мятушні усенароднай
Паслужыць нам зоркай святой пуцяводнай,
Прызыўна збярэ Крывічоў пакаленне
Пад сцяг барацьбы за свае адраджэнне,
Якое прадбачыць сягоння народ,
Як светлы і радасны сонца ўзыход.

Сягоння з нас кожны павінен прызнацца
Ці мае устаць, ці бяздушна схавацца,
Як дух нашай волі узнясецца на крылле,
Каб чуцца нам пэўным з рахункам на сіле
І сіле варожай даць пэўны адпор
За свой родны край, за свабодны прастор

Сыйдзіце з дарогі варожыя цені,
Бо далей не змоўчаць вам нашы цярпенні!
Даўнейшых прыгоннікаў вольныя дзеці
Яшчэ вас паклічуць за крыўды і здзекі,
Каб далі прад судам на гэта адказ:
- Чаго вы заўсёды хацелі ад нас?

Сягоння – у часе вялікага свята
Няхай будзе высака імя паднята
Таго, хто каліс цярпеў паніжэнне,
І з верай у справу свайго вызвалення
Мы скрышым мінулых вякоў ланцугі
За волю тваю, наш народ дарагі.

Цяпер няма часу на жальбы стагнанні,
Нам трэба злучыцца ў дружным змаганні,
Каб хутка на нашых папаленых нівах
Ізноў зарунела багатае жніва
Той доўга чаканай, шчаслівай пары,
Дзе будзем мы вольныя гаспадары!

CD – сенсацыя

# Стаўка – на свае сілы!

Ніводнага, нават зашмальцаванага рубельчыка на выданне гэтага ўнікальнага дыска наша дзяржава не выдаткавала. А колькі выдатных старонак беларускай музычнай спадчыны можна было б узнавіць, перанесці на дыскі і нотныя аркушы, калі б грошы ішлі на такія мэты, а не на гігантаманскія "інтэграцыйныя тусоўкі" кшталту сумнеўных "Славянскага базара" ды "Залатога шлягера"? Ды, відавочна, сёння менавіта такія крытэрыі ў палітыцы мінкульта...

І тым не менш, намаганнямі клуба "Рыцары Вялікага Княства" і маладзёвай суполкі БМА-груп быў выдадзены дыск, які можа ўпрыгожваць дыскаграфію любой нацыі. Маем на ўвазе першы беларускі прэзентацыйны дыск "Легенды Вялікага Княства", адно афармленне якога выклікае трапяткое пачуццё ў прыхільнікаў беларускага музычнага мастацтва.

Сапраўды, дызайнер дыска Зм. Герасімовіч для стварэння альбомнага эфекту выкарыстоўваў выявы старажытных гравюр, ксеракопіі беларускіх нотных аркушаў і маляўнічых шпалераў часоў Вялікага княства Літоўскага. Такі дыск не сорамна прэзентаваць і дыпламатам, і палітыкам, і замежным гасцям нашай краіны.

Да таго ж, на ім ёсць і сюрпрыз для аматараў гістарычных фанаграфічных выданняў: паспрабуйце адшукаць на ім прыхаваную выяву Вялікага Княства – "Пагоню". Вось, сапраўды, адзнака часу – святыя нацыянальныя сімвалы жывуць ва ўмовах нават сённяшніх навучальных рэпрэсій супраць гістарычнай сімволікі беларусаў!

Чытачам, напэўна, будзе цікава даведацца, што навінка мае сваю перадгісторыю і пачалася яна летась, калі ўзнікла ідэя годна прадставіць беларускую музычную культуру Рэнесансу на фэсце сярэднявечнай культуры "Наваградак – 2000". За гэтую справу ўзяліся прадзюсар праекту А. Вячорка, дызайнер Зм. Герасімовіч і аўтар ідэі У. Давыдоўскі, дзякуючы намаганням якіх сігнальная версія кампакт-дыска "Легенды Вялікага Княства" была выдадзена дакладна ў тэрмін да фэсту.

Поспех гэтай унікальнай музычнай зборкі натхніў выдаўцоў на наступныя крокі, у прыватнасці, да супрацоўніцтва з маладзёвай ініцыятывай БМА-груп, якія з дапамогай вядомай польскай фірмы "Такт" і ажыццявілі выданне кампакт-дыска ў прэзентацыйным варыянце – у выглядзе кніжкі-раскладанкі.

Тым не менш, гэты варыянт дыска, музычнае начынне прыцярпелі шэраг змен у параўнанні з першапачатковым. Заўважна больш на дыску стала п'ес кампазітараў, якія жылі і працавалі ў Беларусі ў сярэдневечную эпоху – В. Длугарая і В.Бакфарка, а таксама новых нумароў са знакамітага "Полацкага сшытка".

Цікава, што на "Легендах..." шмат кампазіцыяў, якія і па сённяшніх мерках можна аднесці да хітавых. Думаем, слухачоў не пакінуць абыякавымі народныя песні "А мой дзядзька дуднік быў" у выкананні Аю Журы (дуда, спеў), "Вайтоўна" ў апрацоўцы гурта "Стары Ольса", а таксама цудоўны гімн "Малітва" ў барочным выкананні знанага барда А. Галіча.

Звяртаюць увагу слухачоў і актуальны нават сёння "Застольны кант" у выкананні хора І. Мацюхова і знакамітая песня-летапіс "Бітва пад Оршай" у апрацоўцы хора "Унія" і яго кіраўніка К. Насаева. шмат на дыску і трэкаў з танцавальнай лютневай музыкай В. Длугарая і В. Бакфарка, якую выконваюць гітарысты І. Кубліцкі і Я. Ісачэнка, а таксама гурт старажытнай музыкі з Баранавіч "Контраданс".

Як зазначае даследчыца гісторыі беларускай старадаўняй музыкі В. Дадзіёмава ва ўступным артыкуле да дыска "Легенды Вялікага Княства": "Наша гісторыя застаецца, бадай, не цалкам зразумелай нават дасведчым знаўцам. Прыадчыніць заслону над ейнымі таямніцамі і прызначаны гэты музычны збор".

Сапраўды, новы дыск прыадчыняе для слухачоў музычную скарбонку Беларусі, інтрыгуе яе пярлінамі і дыяментамі... Таму з нецярпеннем будзем чакаць працяга гэтай працы – новых рэлізаў з беларускай музыкай Сярэдневечча, з адроджанымі скарбамі нацыянальнай культуры.

*Анатоль Мяльгуй.*

# "Дарога даўжынёй у жыццё"

*"А ўначы
бясстрашныя жаўнеры,
Сербануўшы
смеласці з каўша,
Чулі
праз зачыненыя дзверы,
Нібы
ў Храме правіцца імша..."*
*Міхась Скобла.*

1935 год. Па загаду ксяндза Завадскага іх спалілі. Ён быў ініцыятарам паланізацыі. Бабуля ў Вольгі Пагуды была каталічка, а бацька – праваслаўны. Брат шыкаваўся паступаць на медыцыну, Вольга – у педагогіку. Да гэтага часу з жахам успамінае Вольга Аляксееўна тое страшнае здарэнне. Як гарэў ток, такое ўражанне, што гарэў велікан, з-пад жалезнай страхі з дымам выляталі языкі агню. Згарэла ўся жывёла, свінні. І цяпер яна ўскоквае ноччу, калі праедзе машына. У маці была істэрыка, думалі, што згарэў брат, бо ён звычайна любіў спаць у стадоле. А ён чытаў у той час, хадзіў у бібліятэку, браў кнігі на некалькі дзён, бо набыць у краме для ўласнай бібліятэкі дорага каштавалі. І калі маці ўбачыла свайго сына, зноў пачалася істэрыка, крычала, што ён з'явіўся з таго свету. Жылі яны тады ў Маладэчне на вуліцы Старая Бухаўшчына. Пасля пажару бацька знайшоў кафтан. Выканаў загад ксяндза Сакалоўскі. У 1939 годзе прыйшлі саветы, якіх вельмі чакалі, прыйшоў Сакалоўскі прасіць, каб не губілі яго дзяцей і бацька паказаў кафтан, і Сакалоўскі прызнаўся, што гэта ягоны.

У кватэры Саковічаў адбыўся сход у 1942 годзе. Вольга Аляксееўна памятае стварэнне БНП (Беларуская Незалежніцкая Партыя). Яна тады пра гэта нават добра не ведала, бо рабілася ўсё ў сакрэце. Хоць яна даўно прамяняла сёмы дзесятак, але захавалася цудоўная памяць. Распавядала пра сваю беларускасць, якую не змаглі зламаць палякі. Там, дзе яна вучылася на настаўніцу, выкладчыкі, палякі былі інтэлігентамі, знешне добрымі.

Потым паступіла ў Віленскі універсітэт на аграномію, запомнілася выступленне Максіма Танка. Бацька Вольгі Аляксееўны быў у КПЗБ.

Кізік – раённы інспектар ведаў Вольгу Пагуду, як добрую настаўніцу, якая ўмее трымацца. Ён прывёз Юльяна Саковіча знаёміць з дзяўчатамі. У яе ногі ўсе паколатыя ад жніва, сукенка самой сшытая, завітулькі на валасах. Юльян сказаў, што яму больш спадабалася сялянка. А яна, калі першы раз убачыла Юльяна, запомніліся белыя прыгожыя зубы. І так, яны, маладыя і прыгожыя пазнаёміліся ў 1941 годзе. Ён вывез яе ў Менск, каб немцы не расстралялі разам з жыдамі, па дарозе заехалі да жонкі Браніслава Тарашкевіча. У Менску стварылася сям'я Саковічаў, там яны нейкі час жылі. Вольга Аляксееўна была худзенькай, калі зацяжарыла, Юльян супакойваў: "Ты не хвалюйся ў нас худзенькія кароўкі лёгка родзяць". У іх нарадзілася дачушка, якую назвалі таксама Вольгай. У пяць месяцаў яна пачала гаварыць ***тата***, на што ён гаварыў, што яна, напэўна, так дражніць. Яна хапала ручкамі за яго гадзіннік. Ён зняў з рукі, і яна кінула так далёка. Вось, якая моцная мая дачушка. Яму не шкада было, швейцарскага, тады дэфіцытнага, гадзінніка. Юльян прыходзіў дадому і адразу пытаўся: А ты малышку купала?

- Купала!

А давай яшчэ раз пакупаем.

Яе называлі маланкай – вочы вялікія, колер пралескі з расой і павекі чорныя і такія былі да чатырох гадоў. Яна была вельмі прыгожай дзяўчынкай, гэта цяпер звычайная жанчына. І цяпер Вольга Юльянаўна незвычайная. Вось так да дэталяў падрабязна ўспамінае Вольга Аляксееўна шчаслівыя хвіліны кароткага сумеснага жыцця з Юльянам.

Стэфан Крупіцкі, муж сяброўкі Зіны Чарняўскай перадаў, што Саковіча забілі. Палякі былі даносчыкамі. Немцы арыштавалі Юльяна Саковіча за невыкананне субардынацыі. Самаахова была ў руках палякаў, з падачы палякаў і прыходзілі немцы арыштоўваць. Яго закатавалі 13 чэрвеня 1943 года. 16 чэрвеня адбыліся паховіны. Тры хлопцы паложаны ў адзін дол. Вользе Юльянаўне было толькі сем месяцаў. Вольга Аляксееўна была ў безпрытомнасці. Унутры так сціснута, што няма свабоды. На памінках пачула, як цудоўна гаварылі пра Юльяна, што быў цудоўны чалавек. Чаму толькі быў? А быў ён добрым мужам, бацькам, прыгожым чалавекам, яго любілі жанчыны. Яна не разумела, што такое рэўнасць. Юльян пакінуў Тастамант: "На выпадак маёй смерці, маёмасць пераходзіць маёй жонцы Вользе Пагудзе і дачцэ да паўналецця". Вядома ж людзі даведаліся і адразу загаварылі, што ёй не дамо зямлі. А яна не магла і слухаць аб гэтым, так было цяжка, навошта зямля калі няма чалавека. Ён быў патрэбен людзям, то ў Смаргонях, то ў Маладэчне, Лідзе, усюды яго чакалі. Прыехаў Юзік – малодшы брат Юльяна, з кім не можа прыпомніць. Яна расчыніла шафу, - вось яна поўная, усё Юльяна, бярыце. Потым Юзік з'едзе ў Польшчу, а другога брата Юльяна Валодзю прыдушыла дрэвам. Пасля смерці Юльяна, яго дваюрадны брат Аляксандр вывязе Вольгу Аляксееўну з дачкой у Літву ў 1943 годзе. Працавала настаўніцай нямецкай мовы, потым выкладала і рускую. Да 1953 году жылі ў Пакішках каля Шырвінтай, у пакойчыку пры школе. Прыехалі з КДБ пахадзілі, паглядзелі, усё праверылі, каб нідзе нельга было схавацца, або выйсці.

За ёй заўсёды сачылі, нехта ляжаў у кустах. Толькі жанчына магла пераажыць страх і выжыць адна з малым дзіцем на руках у такой будыніне. Дзіву даешся. У 1953 годзе яе трымалі ў турме. Выклікалі ў Міністэрства адукацыі, давалі ёй шмат папераў запаўняць, дзе былі даты, даты. У жанчыны, якая там працавала, рукі трэсліся, у папках столькі рэдкіх фотаздымкаў. І пытанні: "Вы не былі на з'ездзе ў Вільні, на якім хацелі адарваць частку Беларусі ад СССР і зрабіць незалежнай?"

Усіх, хто быў на з'ездзе арыштавалі і выслалі ў Сібір. Спыталі пра многіх, пра Аляксандра Саковіча, толькі не пра Юльяна. Так праходзілі гадзіны, дні, гады ў страсе, допытах, сочках. А яна шаптала: "Толькі не". Так казаў Юльян, калі крый Божа трапіш у КДБ, каб толькі ***не*** згаджалася супрацоўнічаць. І таму крычала, каб толькі ***не***, а потым забывала, што такое ***не***, у сэнсе з чым. Для яе галоўнае было, каб толькі засталася жывой дачка і яе ***не*** чапалі. Потым Вольга Аляксееўна працавала ў Укмерге, выкладала мовы. Цяпер Вольга Аляксееўна і Вольга Юльянаўна жывуць у Пабродздзі.

Жыццё было такім паласатым і ўхабістым. А яна не зламалася, як запавет шаптала – каб толькі ***не***, - жыве з чыстым сумленнем, засталася вернай аднаму чалавеку, памяць аб ім беражэ. Інтэлігентная, унутрана прыгожая. Вырасціла дачку Вольгу. Яна па адукацыі настаўніца, валодае дасканала некалькімі мовамі.



**Вольга Аляксееўна Саковіч, травень 1999 г., Пабродздзе.**

Вольга Юльянаўна незвычайна цудоўная жанчына, вельмі добрая, заўсёды гатовая дапамагчы. Яна збірае ўсе звесткі пра бацьку, сябар рады Таварыства Беларускай культуры ў Вільні. Кожны месяц прыязджае з другога гораду і на кожнае паседжанне, і на кожнае мерапрыемства. Тут заўсёды рады яе бачыць, тут прыемна ёй. Я.Вользе Юльянаўне без канца ўдзячна за падтрымку. У 1999 годзе група актывістаў ТБК разам з ёй здзейснілі паездку ў Ліду на магілу бацькі. Тады ж дамаўляліся з "патрыёткай" аб упарадкаванні магілкі, але, відаць, так і засталося. Мяркуецца зноў туды вандроўка, там і пабачым, хто ёсць хто! У 2000 годзе ўжо больш шырокае кола дзеячоў таварыства ездзіла ў Баўдыры на радзіму Юльяна Саковіча. Там Вольга пабачыла ўпершыню, і як прыемна было ёй сустрэцца з краязнаўцамі Уладзімірам Прыхачам, які запісаў аповед служанкі Саковічаў, ды і сам часта блукае па тых мясцінах, дыхае тым паветрам, і з Міхасём Казлоўскім, якога цікавіць лёс Вольгі Пагуды, як ураджэнкі Маладэчна. У Слоніме жыве вядомы гісторык Сяргей Ёрш, які ў сваёй кнізе "Вяртанне БНП" пісаў пра Юльяна Саковіча. Герояў сваіх трэба памятаць і ганарыцца імі. А для мяне Вольга Юльянаўна стала такой роднай, блізкай. А мне хочацца паехаць у Пабродздзе, ціха пасядзець. Там усё іншае – паветра, памяць, кнігі, добрыя жанчыны. Вось і усё! Духоўнасць дапамагла ім не зламацца.

*Леакадзія Мілаш,*
*г. Вільня*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 26. 03. 2001.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 794
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 242 руб., 3 мес.- 726 руб.
***Кошт у розніцу:*** 70 руб.